# РЭЎМАТЫЗМ і МЕХАНІЗАЦЫЯ

Калі я запытаў фельчара, Аркадзя Гарустовіча, на колькі палепшылася ахова здароўя насельніцтва за час існавання пункта аховы здароўя ў Чыжах, Гайнаўскага павета, ён задумаўся перад адказам.

— Бачыце, гэта вельмі агульнае пытанне, — адказаў фельчар. — Нельга на яго адказаць нейкімі канкрэтнымі лікамі або прыкладамі. Але, усё ж такі, за час маёй 7-гадовай працы ў Чыжах маю свой погляд на гэтую справу.

Аркадзь Гарустовіч пачаў мне расказваць аб сваёй нялёгкай працы кіраўніка пункта аховы здароўя. Пункт аховы здароўя арганізавана ў Чыжах у 1953 годзе. Фельчар Гарустовіч быў яго першым арганізатарам і з таго часу працуе ў ім.

— Калі я сюды прыехаў, — успамінае Гарустовіч, — дык паверце, сам не ведаў за што найперш узяцца.

Абавязан абслугоўваць насельніцтва аж 12 вёсак. Гэта каля 5 тысяч людзей, а я сам адзін. У той час, асабліва, шмат захворванняў было сярод дзяцей. Уявіце толькі, кожнае пятае дзіця ў аколіцы хварэла на «ангельскую хваробу». Даволі вялікая смяротнасць была сярод новонароджаных. «Акушэркамі» былі ж тут усюды вясковыя «вопытныя» бабулькі. Цяжкая была праца. Ні дня, ні ночы не было спакойнай.

Але праца фельчара не засталася без рэзультатаў. Хопіць сказаць, што за апошнія 3 гады на 209 новонароджаных у аколіцы, толькі 3 дзяцей памерла. Непараўнана шмат абніжылася і захворванне дзяцей не «ангельскую хваробу».

— Людзі больш правільна пачалі карміць маленстваў, — больш чысцей утрымоўваць, часцей паказваюць ім сонца.

Аб гэтым, урэшце, пастаянна гаворыцца маткам у нашым радзільным доме, у час наведвання хворых, ды і наогул ёсць шмат даступнай літаратуры на гэтыя тэмы, якую ахвотна чытаюць у вёсках.

— А на якія хваробы найбольш хварэюць дарослыя?

— Дарослыя найбольш захворваюць на хваробы, звязаныя з рэўматызмам і ўсялякія страўнікавыя захворванні.

— Чым гэта тлумачыць?

— Ну, што ж, гэтыя хваробы выкліканы перш за ўсё цяжкай прафесіяй земляроба. На гэта, пакуль існуе ў нас раздробленая гаспадарка, няма рады. Механізацыя працы селяніна, замена найцяжэйшых фізічных работ машынамі, магло б увесці карэнныя змены ў ахове здароўя жыхароў вёскі. Рызінавы абутак, які так папулярны ў нашых вёсках, таксама мае свой уплыў на рэўматычныя захворванні.

На жаль ані механізацыя, ані адпаведны абутак не залежаць ад працаўнікоў службы аховы здароўя.

Фельчарам Гарустовічам людзі ў аколіцы вельмі задаволены.

— Гэта свой чалавек, — гавораць аб ім. — Прыдзі да яго ў любую пару, ніколі не адмовіць дапамогі.

Аб яго папулярнасці сведчыць і колькасць наведвальнікаў, якіх штодзень у пункце аховы здароўя бывае ў сярэднім не менш 10 чалавек.

— Але аднаму, — гаворыць фельчар, — вельмі цяжка працаваць. Штодзень 3 гадзіны працы на месцы, а пасля еду ў вёскі, да школ. Неаднойчы дамоў прыходзіцца вяртацца позна ў ночы. Вельмі прыдалася б у нас медсястра. У час маёй адсутнасці медсястра магла б аказаць першую дапамогу чалавеку, які раптоўна захварэў, выдаць лякарства з нашай аптэчкі. Калі выязджаю, даводзіцца пункт аховы здароўя замыкаць на ключ. Нават рэестрацыя хворых забірае мне шмат часу. На жаль, невядома чаму не прадбачваецца медсястры ў пункце аховы здароўя.

Няма ў нас таксама санітарнага кантралёра. А без яго проста немагчыма добра працаваць. Гэта ўжо нейкая нядбайнасць з боку аддзела аховы здароўя. Аднойчы пацешылі мяне ў аддзеле, што кантралёр прызначаны нам з Гайнаўкі. Але яшчэ дагэтуль ні разу яго не бачылі ў Чыжах.

Вельмі нядобра таксама, што і наш радзільны дом змяшчаецца не ў Чыжах, а ў Збучу, адлеглым за некалькі кіламетраў. Гэта вельмі ўскладняе працу. Тут жа на месцы ёсць аптэка і іншае абсталяванне. На маю думку радзільны дом трэба неабходна перанесці ў Чыжы.

— Якую дапамогу маеце ад аддзела аховы здароўя прэзідыума ПРН, — запытаў я ў канцы нашай гутаркі.

— Калі адказаць па-шчыраму, — сказаў, падумаўшы фельчар, — дык не зусім вялікую. Вось ужо так даўно дабіваюся атрымаць талон на матацыкл. Ён жа проста неабходны ў маёй працы. Абяцаюць, але не даюць. Ды і наогул аддзел аховы здароўя павінен больш цікавіцца нашай працай і дапамагаць пераадольваць цяжкасці.

Шпарчэйшы ўздым сельскай гаспадаркі залежыць жа ад здаровых людзей.

ВАСІЛЬ БОНДАР

## Першае месца

У кастрычніку ў Саколцы адбыўся агляд - продаж огераў з цэлага ваяводства. Першае месца заняў огер «Дэрбэр» (на здымку), якога выгадаваў Ян Клочка з Дуброўскага павета. Цяперашні ўласнік огера — Францішак Бжазоўскі — з Замброўскага павета.

фота — Э. Грынявіцкі



## КАРЫСНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА

Усё яшчэ шмат вёсак не карыстае ў нас з фонда развіцця сельскай гаспадаркі.

Зразумела, што гэта тыя вёскі, у якіх няма арганізаваных сельгасгурткоў. І таму вельмі карысной з'ўляецца ініцыятыва некаторых прадукцыйных спулдзельняў у Гайнаўскім і Сямяціцкім паветах. Менавіта, спулдзельцы прапанавалі паасобным сялянам, каб супольна выкарыстаць фонд развіцця сельскай гаспадаркі, які прыпадае на даную вёску, закупіць патрэбныя сельгасмашыны (спулдзельня пакрывае 20% кошту машын) і супольна карыстацца імі.

З гэтай мэтай у вёсках Ваські, Тыневічы, Грабавец, Бельшчызна і Тымянка паклікаsucceeded да жыцця каардынацыйныя камісіі. Такім чынам у Васьках куплена малацільны агрэгат, якім сёлета карысталася ўся вёска.

У Грабаўцы пастанавілі купісь трактар з цэлым камплетам сельгасмашын.

А, напрыклад, у Тымянцы, Сямяціцкага павета, калі спулдзельцы супольна з аднаасобнікамі купілі навейшы малацільны агрэгат, то ў першую чаргу абмалочана збожжа ў аднаасобных, а пасля ў спулдзельні. Такое супрацоўніцтва вельмі карыснае. Аднаасобныя сяляне пераконваюцца, што спулдзельня гэта іх прыяцель, што, калі зойдзе патрэба, яны тут заўсёды атрымаюць належную дапамогу. (вб)

# САМАСУД НАД БРАТАМ

працяг са стар. 1

### ПЕРАДУСІМ ХАТА...

Паглядзеў Сцяпан з панадворка на хату, а яна амаль каламі падперта і падумаў:

— І мучыць жа мяне перадусім хата. Без яе жыцця няма, а пабудаваць новую нялёгка, ды і з матэрыялам цяжка.

Ён кінуўся ў заробкі. Чалавек малады, 32-гадовы, са здароўем чуўся вельмі добра, дый і не шукаў лёгкай працы. Працаваў, дзе толькі трэба і дзе можна крыху зарабіць. У апошні час працаваў у цагельні каля вёскі Дольнае. Зарабляў нямнога. Абое з жонкай вырашылі жыць ашчадна, збіраць грош да граша. Калі нават Сцяпан «зрабіў чэцвертушку» з сябрамі, дык каяўся потым, калі Марыся пераконвала яго, што гэтак рабіць нельга, што «трэба распачаць будову хаты».

Ранняй вясною бягучага года абое ачысцілі плошчу, зрабілі фундамент, купілі крыху цэглаў, пастараліся прывезці жужалю і пачалі мураваць сабе хату. Калі Сцяпан працаваў у цагельні, жонка спяшалася даглядзець дзяцей, зрабіць нешта ў полі, пакінуўшы сваю некалькімесячную дачушку Алінку ў хаце са старэйшай Іркай, каб да вяртання мужа з працы паспець яшчэ зрабіць штосьці пры пабудове новай хаты. Марыся навучылася сама нават мураваць, з чаго вельмі цешылася. Цешыліся абое, калі хаця на некалькі сантыметраў расла іх новая хата. У міжчасе ў столяра заказалі сталярку. Як жа прагна жадалі, каб пад новы год выканчыць хаця кухню і ў ёй пасяліцца. У гарачы перыяд палявых работ на даўжэйшы час спынілася ў іх нармальная праца пры будове хаты. Але з намеру — завяршыць яе пад новы год хаця часткова — не рэзыгнавалі і ранняй восенню праца ізноў набрала тэмпа.

Паміж Сцяпанам і Антонам былі частыя лаянкі і сваркі. Але часам даводзілася ім гутарыць між сабою і па-брацку, што надта цешыла добрых суседзяў, бо надаела ім ужо слухаць усё адну і тую ж «песню». А ўвесь сэнс гэтай «песні» заключаўся бадай што ў прэтэнзіі Сцяпана да няроўнага падзелу бацькоўскай і цётчынай спадчыны, што параджала, у асноўным, вялікую нянавісць паміж братамі.

### ПРАЦАВІТЫ ДЗЕНЬ ЗАКОНЧЫЎСЯ РАНЕЙ...

Панядзелак, 12-га верасня, быў такі пагодны, як амаль усе дні сёлеташняй восені. Адны рыхтаваліся да сяўбы, іншыя цэлай сям'ёй капалі бульбу. Цішыню ў Дубінскай Ферме парушалі толькі фабрычныя гудкі, чутныя з недалёкай Гайнаўкі, ды ў стадоле, што ў канцы вёскі, з невялікімі перапынкамі гудзела веялка. Гэта Антон з сынам Яўгенам веялі жыта, рыхтуючыся на заўтра да сяўбы.

— Ці тата ўрэгуляваў ужо залеглы падатак? — спытаўся бацькі чымсьці засмучаны ў час перапынку Яўген.

— Ах, пытаешся пра падатак, ці я ўрэгуляваў? Так, аддаў яшчэ на пачатку мінулага тыдня, — адказаў бацька.

— Дык добра. Калі атрымаю сваю зарплату на «калейках» у Гайнаўцы, то сабе штосьці куплю.

Антон не цікавіўся, што намераны сын сабе купіць, але рупліва пачаў круціць веялку. Бацька і сын моўчкі працягвалі сваю працу.

*

Сцяпан з працы ў цагельні спяшаўся дамоў. Чакалі капанне бульбы і мураванне хаты. Па дарозе, у Гайнаўцы, у краме купіў селядцоў, буханку хлеба і сухарыкаў паўгадовай дачушцы Алінцы. Праз Дубіны ехаў хутка веласіпедам і падпяваў сабе. Хто бачыў, дык гаварыў, што Вакулінскі паехаў падхмеляны. Каля 2-ой гадзіны пасля абеда быў ужо на ўласным панадворку.

Жонка Сцяпана ў стадоле малаціла каноплі.

— Мама! Тата ўжо прыехаў. Хадзі, дасі яму абедаць, сказала прыбегшая з хаты дачушка Ірка.

— Добра, дочанька, зараз іду.

Сцяпан на панадворку вёў сябе даволі вясёла. У той час Антон з Яўгенам зрабілі сабе абедзенны перапынак. Яўген выйшаў з хаты на вуліцу. Кажуць, што Сцяпан і Яўген пачалі сварку. Сцяпан схапіў камень, пусціў яго за ўцякаючым Яўгенам і папаў у акно Антонавай хаты. На панадворку ля Сцяпана нечакана аказаўся Антон.

Васьмігадовая Ірка з крыкам падбегла ізноў пад стадолу і ўскрыкнула:

— Мама! Б'юць тата!..

Марыся з крыкам пачала бегчы пад хату. Калі пабачыла, што Антон б'е па галаве мужа жалезнай лапай для выцягвання гваздзей, падняла віск, які рэхам далёка панёсся па полі.

Яна ўпала мужу на грудзі, абняла за шыю, пачала трасці з усёй сілы, але Сцяпан ужо больш не адазваўся.

### ЗАМЕСТ ЭПІЛОГА

Немагчыма са спакоем у сэрцы глядзець на трое асірацелых дзяцей, на маладую, з пачарнелым ад гора тварам, удаву. Хто гэтым дзеткам дасць утрыманне? Як будзе гадавацца паўгадовая Алінка без бацькі. Хто дапаможа беднай удаве пасяліцца пад новы год у новай хаце? Жудасна глядзець на панадворак Марысі Вакулінскай, ведаючы аб яе вялікім няшчасці.

З нейкім бліжэй неакрэсленым пачуццём глядзіцца таксама на ахайны, чысты панадворак Антона Вакулінскага і няхочацца верыць, што пяцідзесяцігадовы гаспадар гэтага панадворка мог зрабіцца такім паганым злачынцам — забіць брата і чалавека.

МІХАСЬ КУРАШ

 

# ЦЫГАНЫ



Першая гістарычная запіска, якая ўспамінае аб цыганах у Канстантынопалі паходзіла з паловы XI стагоддзя. Пілігрым у святую зямлю — Сымон Сымеоніс успамінае аб існаванні цыганоў на Крыце ў 1322 годзе. Потым чуем аб цыганах у Грэцыі. У 1387 г. спатыкаем іх на тэрыторыі цяперашняй Венгрыі і ў Польшчы.

Даследы вучонага нямецкага Рыдзігера над мовай цыганоў выявілі, што цыганы выводзяцца з Індыі. У X ст. яны пакінулі сваю радзіму і рушылі ў вялікае падарожжа праз Малую Азію ў Еўропу і далей.

Цяпер цыганы не падарожнічаюць увесь год, толькі летам.

✲

Самай неабходнай жывёлінай у цыганоў з'яўляецца сабака, які пільнуе цыганскага маёнтку. Аднак так сабака, як і кот лічацца «брыдкімі» стварэннямі. «Джукэл» (сабака) — адно з найбольш зневажальных прозвіск.

✲

Прысмак цыганоў — мяса вожыка. Аднак не кожны вожык надаецца ў ежу. Калі мае мордачку падобную да сабачай — тады лічыцца нядобрым. Прыгодны для ежы той вожык, які мае мордачку падобную да свінскай. Смажаць вожыка ў гліне. Прысмакам лічыцца таксама страва з мурашынага квасу.

✲

Цыганы не ведаюць пісьма. Карыстаюцца некаторымі ўмоўленымі знакамі.



Цыганкі славяцца прыгажосцю

На чале кожнага цыганскага табору стаіць старэйшы цыган, які падлягае войту. Войт падлягае «каралю». Апрача «каралеўскай» — свецкай улады, існуе духоўная ўлада. Самы высокі свяшчэннік — «Баро Шэро» (Вялікая галава) мае права накладаць і знімаць клятвы. Ён з'яўляецца і найвышэйшым суддзёй.

✲

Вяселле суправаджаецца вялікай гасцінай, на якой жанчыны не маюць права сядаць разам з мужчынамі. Пасля вяселля старыя жанчыны засцілаюць у шалашы маладых чыстую пасцель і рана спраўджаюць яе стан. Калі маладая была чэснай, вешаюць на вярху шалаша чырвоныя шматкі. Калі аказалася, што інакш, тады вешаюць дзюравы гаршчок, а «вінаватая» церпіць насмешкі.

✲

Сямейная вернасць у цыганоў вострая, але толькі ў адносінах да жанчын. Калі жонка ўцячэ ад мужа, той можа злавіць яе і пакараць так, каб «было знаць аж да смерці». Кара заключаецца ў тым, што на твары, носе муж прарэзвае шкуру, ці абрэзвае вуха. Калі цыганка сама вернецца да мужа, тады абрэзваецца ёй толькі валасы. Мужчына за здраду не караецца.

✲

Цыганам забаронена памагаць цыганцы, калі тая родзіць дзіця, а таксама датыкацца да яе і да дзіцяці і есці з ёю. Радзільніца з'яўляецца «нячыстай» праз тры тыдні. Праз гэты час яна есць з асобнай міскі.

✲

Спадніца жанчыны лічыцца асабліва нячыстай. Калі цыганка дакранецца берагам спадніцы да міскі з ежай, тады выкідаецца і ежу і міску. Калі не хочучы цыганка сядзе на шапку цыгана, такую шапку выкідаюць.

Калі цыган спакусіў цыганку і не хоча з ёю жаніцца, яна мае права зневажыць яго, закідваючы яму на галаву спадніцу. Каб ачысціцца, цыган павінен ажаніцца з ёю, або заплаціць грошы. За «зневажанага» цыгана не выйдзе ні адна цыганка.

эСКа



Цыганскія дзеці

## УСЯКАЯ ЎСЯЧЫНА

### НАЙСТАРЭЙШАЕ ДРЭВА.

Найстарэйшым дрэвам на свеце ёсць хлебнае дрэва ў Танган'іцы (Афрыка). Яму ўжо 5000 год.

### НАЙБОЛЬШАЕ ДРЭВА

У Індыі расце фігавае дрэва, у ценю якога можа адпачываць 7 000 асоб. Дрэва мае каля 3 000 галін і 3 000 год.

### НАЙКАРЫСНЕЙШАЕ ДРЭВА

Найбольш карысная расліна — гэта бамбук. Дае ён ежу, служыць як будаўнічы матэрыял, вырабляецца з яго зброю, меблю, кошыкі, паперу, фарбы і многа іншых рэчаў.

## ПАРАДЫ ДЛЯ ГАСПАДЫНЬ

Чарнільныя плямы з адзення можна выдаліць нашатырным спіртам або растворам пітнай соды (1—2 чайныя лыжкі на шклянку вады). Для выдалення чарнільных плям выкарыстоўваюць таксама падагрэты раствор лімоннай кіслаты (5—10 грамаў на шклянку вады). Пасля выдалення плям тканіну прамываюць чыстай вадой.

✲

Для таго, каб пачысціць вырабы са скуры і надаць ім першапачатковы бляск, трэба добра ўзбіць бялок з аднаго — двух яек і з дапамогай фланелі старанна працерці ім гэтыя вырабы. Калі скура чорнага колеру, то да бялка дабаўляюць крыху сажы.

✲

Некалькі кропель шкіпінару, дабаўленых да крухмальнага раствору, аблегчаць прасаванне бялізны і перашкодзяць прыліпанню яе да праса.

✲

Калі вы хочаце хутка астудзіць які-небудзь дэсерт, ці страву, пастаўце ў пасудзіну, напоўненую халоднай салёнай вадой.

### 100 : 107

У арганізм наш вада «ўваходзіць» не толькі тады, як п'ем, але і тады, як ямо. У выніку біяхімічных працэсаў атрымліваецца, напрыклад: 100 грам з'едзенага бялка дае каля 40 грам вады, 100 грам тлушчу — 107 грам вады. Таму, напрыклад, народы ў цёплых краінах любяць есці многа тлушчу.

### ЫМ ЯСНЕЙ, ТЫМ ЛЕПШ

Чорны колер адбівае 1—3 працэнтаў сонечных праменняў, белы — 79—80 прац., яснажоўты — 40 прац., сіні — 25. Таму асвятленне нашых кватэр залежыць ад таго, на які колер памаляваны сцены.

## ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ

### ЗЛУЧАНЫ АЎТОБУС У ШАНХАІ

Работнікі Цзінанскага завода аўтамабільных дэталей сканструявалі злучаны двухсекцыйны аўтобус на 100 мяккіх пасажырскіх месцаў. Даўжыня аўтобуса — 18,3 метра. Пасажыры могуць праходзіць з адной секцыі ў другую праз герметызаваны пераход на хаду аўтобуса, нават у час паваротаў.

### 16 500 ГРАДУСАЎ ПА ЦЭЛЬСІЮ

Тэмпература полымя факелаў мартэнаўскай печы не перавышае 2000 градусаў, ацэтылена—кіслароднай гарэлкі— 3 200 градусаў, а ў электрычнай дузе тэмпература даходзіць да 6000 градусаў. Гэта, напэўна, самая высокая тэмпература, якая да цяперашняга часу ўжываецца ў тэхніцы.

Новая гарэлка, зробленая ў Федэратыўнай Рэспубліцы Германіі, стварае электрычную дугу ў струмені газу. Тэмпература гэтай дугі даходзіць да 16 500 градусаў па Цэльсію. Гарэлка выкарыстоўваецца пры вырабе складаных дэталей з вальфрама.

### ХЛЕБУ 3.500 ГОД

Як вы думаеце, ці доўга можа захоўвацца печаны хлеб? Аказваецца, доўга. У час раскопак грабніцы царыцы Хатшэнсунь у Егіпце археолагі знайшлі хлеб, які праляжаў там 3500 год.

НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ ✲ НАВІНЫ ТЭХНІКІ




Ажаніўся я два гады таму назад. У нас ёсць ужо сын, які ўнёс у нашае жыццё многа радасці. Жывем мы з жонкай нядрэнна. Безумоўна магло б быць лепш, але гэтаму мяшаюць нашы спрэчкі. За што? Паслухайце!

Я люблю павесяліцца, люблю часамі і чарку выпіць. За чарку жонка не мае да мяне прэтэнзіі, але мае прэтэнзіі за тое, што я прымаю ўдзел у таварыскіх спатканнях. Яна не любіць кампаніі. Заўсёды сядзела б толькі дома. Нават у кіно яе не выцягнеш. Тлумачыць, што шкада грошай на гэта. Каб ужо было цяжка з грошамі, дык тады іншая справа. Але так не бывае ў нас. На кніжцы ПКО маем звыш 3 тыс. зл.

І я вось проста не ведаю, як ліквідаваць у жонкі празмерную скупасць і імкненне да замкнутасці. Без гэтых з'яў у яе характары лепш бы нам было.

**Антон Б.**

Гайнаўскі павет

**Хоць жонка і не мае часам рацыі (маем на ўвазе з'явы апісаныя вышэй) раджу ўступаць ёй крыху. Мо' замкнутасць жонкі выплывае з таго, што яна не мае часу на гульні і кіно, а вы гэтага не бачыце? Акрамя таго, не абавязкова мець вялікую кампанію. Можна завесці дружбу з нейкай талковай сям'ёй. Такая кампанія будзе і карысная і вясёлая.**

**Сэрцайка**

### НЕЛЮДСКАЯ ЗБРОЯ

У Нагасакі нарадзілася дзіця без мозгу. Бацькі дзіцяці знаходзіліся ў Нагасакі ў часе выбуху атамнай бомбы ў 1945 годзе.

### А, ПСІК!

На здароў'е! — гаворыцца таму, хто пчыхае. І справядліва. Бо пчыханне — гэта абарона арганізма. Пчыхаючы чалавек абараняецца перад пылам, брудам, мікробамі.



 

# СЫНОК

Да Змітруковых прышлі госці. Гаспадыня ўзяла за ручку свайго чатырохгадовага пястуна Васю і, падвёўшы яго да дзядулі, спытала:

— Пазнаеш, Васенька? Скажы, хто гэта?

— Стары карабін, — паглядаючы з-пад ілба на дзядулю, выпаліў Вася.

Госці прыціхлі ад нечаканасці.

— Васенька, будзь ветлівым, прывітайся з бабулькай, — прагаварыла маці.

— Баба яга, касцяная нага, — пачуўся адказ Васі.

Старая бабулька цяжка асунулася на крэсла ад уражання.

— Васенька, ты ж у нас добра выхаваны, падай ручку цёці, — прасіла збянтэжаная маці.

— Цётка-плётка, выдра маляваная, — праварчаў Вася.

Цётку, быццам нехта кіпетнём абліў. Яна рэзка крутнула на высокіх абцасіках і напоўненымі слязмі вачыма ўтарапілася ў акно.

Збянтэжаная зусім маці пачала апраўдвацца перад гасцьмі.

— У нашага Васенькі нешта сёння настрой сапсаваны. Але наогул ён у нас салодкае і вельмі разумнае дзіцятка.

— Займіся, сынок сваімі забаўкамі і не перашкаджай нам, — дадала яна, звяртаючыся да свайго пястунчыка.

У адказ Вася рэзка «падфудболіў» свой паравозік, які разануўся аб сцену. Ад яго адламаўся комін, а адарванае кола закацілася аж у другі канец пакоя пад тапчан.

Адначасова сынок зароў бычыным голасам, мабыць ад таго, што ў яго пад нагамі не было больш чаго знішчаць.

— Ціха, сыночак, ціха, — супакойвала маці. — Ну, скажы, што табе яшчэ даць пагуляць?

— Хачу татаву бры-ы-тву-у! — праз слёзы выдушыў Вася.

— А я б яму па задніцы даў, — не вытрымаў дзед.

— У-у-у! — зароў на ўсю хату Вася.

— Навошта палохаць дзіця, — заступілася маці. — Дай яму ўжо патрымаць брытву. Няхай супакоіцца, — прымірана загаварыў бацька.

— Ну, ведаеце, гэта ўжо пераходзіць усялякія граніцы, — злавалася цётка. — Вы яму дайце зараджаны рэвальвер няхай пагуляе.

— Выдра маляваная, выдра! — ускліквае Вася.




выходзячы з маткай у другі пакой.

— Не магу ўявіць, што з Васяй сталася. Ён жа ў нас заўсёды такі спакойны хлопчык. Так хораша з коцікам гуляў, — звяртаючыся да гасцей, апраўдвалася маці.

— А дзе ж ваш той раскошны коцік? — спытала цётка.

— Коцік? — перапытала маці. — Ды ён яшчэ ўчора быў, але, вось, гуляючы з Васяй, заблытаўся ў шнурок і задушыўся.

— Самагубства! — прабасіў дзед. — Кашэчыя нервы не вытрымалі гульні з Васяй.

— Сядайце за стол дарагія госцейкі, — запрашала маці ў той час, як бацька адкаркоўваў пляшкі. Раптам з другога пакоя зыляцеў мяч. Ён адбіўся ад дзедавай галавы, разбіў на стале два кілішкі і мякка ўліп у сярэдзіну прыгожага торта.

— Ну, гэта ўжо чорт ведае што, — не вытрымаў бацька. — Пастаўлю гіцля ў куток, — вырашыў ён, выходзячы ў другі пакой.

— Ну, што? — спытала ўсхваляваная маці, калі бацька вярнуўся.

— Не знайшоў падшывальца. Уцёк, — адказаў ён.

— Выхаванне дзяцей — справа вельмі складаная, — філасофстваваў бацька, седзячы за сталом.

— А ты складаных спраў вельмі не любіш і ўсё на маіх плячах ляжыць, — адказала маці.

— Я б яго вылячыў з дурасці, — прагаварыў дзед.

— Стары пердун! — пачулася за спіной дзеда ў паўадкрытым акне.

— Сынок, я за цябе чырванею, — прагаварыла маці, падыходзячы да акна. — Васенька, аддай запалкі, — закрычала яна рэзка.

— Я зусім не буду здзіўлены, калі аднойчы на месцы вашай хаты пабачу кучу вугалю, — заўважыў дзед.

— Трэба будзе купіць вогнетушыцель, — прадбачліва сказаў бацька.

Мілыя чытачы, падумайце толькі, што вырасце з Васі? Выхаванне дзяцей і ў біцці не заключаецца. Дзіцё павінна падпарадкоўвацца аўтарытэту бацькоў. Але ў нас часта разумныя падпарадкоўваюцца дурным.

Дзядзька Лявонь




**— Вы абяззброілі двух бандытаў, а дрыжыце перад праўленнем кааператыва?**

**— Так, але ў праўленні 7 асоб.**



Без слоў

— Любіць... не любіць... любіць... не любіць...!

### КУДЫ ЯНЫ ДЗЕВАЮЦЦА

— Скажы, тата, ці гэта праўда, што на Месяцы жывуць людзі? — пытаецца сын у бацькі.

— Магчыма, — адказвае бацька.

— Але куды ж яны дзеваюцца, калі месяц робіцца вузенькім?

Тэодар Міхалюк
Койлы

### ПАЎТАРАЮ

— Што ж, Коля, паўтараеш чацвёрты клас?

— Паўтараю.

— А чаму?

— Бо наш настаўнік сказаў, што паўтарэнне — найлепшая дарога да ведаў.

Мікалай Грыгарук
Плюцічы

### БАЧЫЎ

— Я бачыў такога асілка, які падымаў вагон... — кажа Міхась.

— Брэшаш! — ускрыкнулі хлопцы.

— ...Толькі не падняў, — дакончыў Міхась.

Сяргей Сэвэрын
Мастаўляны




### КАБ БЫЛО ЧЫСТАЕ

Кандрат падаіў карову і аддае малако зноў піць карове. Тады падыйшоў да яго сусед і пытае:

— Навошта даеш малако карове?

— Ведаеш, уступіла мне ў вядро, дык мушу яшчэ раз перапусціць, каб было чыстае, — адказаў Кандрат.

Зася Касцючук
Тынкоўшчына

### РАЗВІТАЎСЯ

Адзін хлапец пайшоў на камісію. Там яго доктар агледзеў і сказаў:

— Здаровы, як бык. пойдзеш да войска.

Хлапец адзеўся і ўжо каля дзвярэй на развітанне сказаў доктару:

— Да пабачэння, пане ветэрынар.

Пачуўшы гэта, доктар аж падскочыў з абурэння і закрычаў:

— Стой, сабака. То ты не ведаеш, як трэба сказаць доктару на развітанне?

— Ведаю, — кажа спакойна хлапец, — але я нічога дрэннага не сказаў. Вы мяне прыраўнялі да быка, ну а я вас да ветэрынара.

Доктар не меў што адказаць.

М. П.




З вёскі Астражаны ў Сямяціцкім павеце ішлі два сябры, Станіслаў Сабковіч і Уладзімір Іванаў — зборшчыкі Фінансавага аддзела ў Сямяцічах. Вясковая дарога здавалася ім надта вузкай. Ногі блыталіся, быццам было іх не дзве, а прынамсі дзесяць. Сумна было так ісці сярод глухой жнівеньскай ночы. Хацелася чымсьці развесяліць душу, абвеяную туманам «святой вады». Толькі чым, калі вакол глуш ды ноч. Нечакана трактарны шум пачулі яны здалёк. Нарастаў ён з кожнай мінутай, набліжаючыся ўсё больш да падарожнікаў, заблытаных у начной цемры.

— Глядзі, — адазваўся адзін з сяброў, — нейкі д'ябал імчыцца неасветленым трактарам.

— Чакай, з гэтага можна скарыстаць, — сцвердзіў другі. Калі трактарыст зраўняўся са зборшчыкамі, адзін з іх закрычаў на ўсё горла:

— Стой! Стой!

Трактарыст спыніў трактар.

— Чаму едзеш ноччу без святла? — строга запытаў зборшчык.

— Плаціш сто злотых штрафу! — дадаў другі, не даючы трактарысту дайсці да слова. Трактарыст тлумачыўся, прасіў, але гэта ў нічым не памагло. Зборшчыкі выпісалі яму на нейкай паперы «штрафны мандат» на сто злотых і трактарыст мусіў заплаціць. Потым прымусілі яго завярнуць трактар і адвезці іх да Астражан. Там разбудзілі прадаўшчыка мясной крамы і патрабавалі ад яго гарэлкі. Прадаўшчык рашуча адказаўся адкрыць краму. Змусіць яго да гэтага не было магчымасці, бо ён бачыў іх у дзень і ведаў, што яны толькі зборшчыкі Фінансавага аддзела ў Сямяцічах. Паслалі тады прадаўшчыку шмат сочных букецікаў усякай усячыны і... пайшлі да галавы па розум.

Абодва сябры - зборшчыкі накіраваліся да хаты грамадзяніна Язэпа Клепацкага

— Дзе ваш мужык? — увайшоўшы дахаты, строга звярнуўся зборшчык Іванаў да гаспадыні.

— На варце, — адказала жанчына. — Сёння яго чарга.

— Няпраўда! — запярэчыў зборшчык. — Няма яго на варце. Мы спраўджалі. Ён напэўна недзе спіць — сцвердзіў другі «начны герой».

— Гэта значыць, не выконвае сваіх падставовых абавязкаў. Плаціце, паважаная грамадзянка, за гэтае злачынства дзевяцьсот злотых штрафу.

— Панове даражэнькія, літасці прашу! — заламала рукі Клепацкая. — За што караць так строга нас бедных?

— Мы знаем такіх бедных! — рашуча сцвердзіў Сабковіч і пачаў перагортваць усё ў верх нагамі ў шафах, скрынях ды шуфлядах. Калі закончыў сваю «місію», хата выглядала, быццам пабоішча.

Двумя «героямі» зацікавілася Павятовая пракуратура ў Сямяцічах. Следства ў іх справе ўжо закончана і зараз чакаюць яны ў арышце на судовы разбор. Не спадзяваліся «героі» гэткага заканчэння сваёй гульні.

Зборшчыкі Фінансавага аддзела ў Сямяцічах, выкарыстоўваючы несвядомасць сялян, ужо не адзін раз дапускаліся падобных злачынстваў. Напрыклад, у сёмым нумары «Нівы» з 14 лютага г. г. пісалі мы аб грубіянствах зборшчыка Уладзіміра Іванова — аднаго з «герояў» злачынных правіннасцяў аб якім мы расказвалі.

Гэты крытычны сігнал Фінансавы аддзел прапусціў тады міма вушэй, а ў адказе на нашую інтэрвенцыю сямяціцкія ўраднікі намагаліся зусім беспадстаўна бараніць свайго сябра-зборшчыка.

Вядома, апетыт расце з ядою. Уладзімір Іванаў, адчуўшы за сабою шырокае і моцнае «плячо», якое ападабрала яго злачынную дзейнасць, вырашыў мабыць, што можна яму ўсё.

Няслаўны лёс працаўнікоў Фінансавага аддзела ў Сямяцічах няхай будзе перасцярогай усім тым хто праз пальцы глядзіць на крытычныя заўвагі.

Віктар Рудчык